## НА ГРАМАДСКІХ АСНОВАХ

Кіраўніцтва калектывамі мастацкай самадзейнасці на грамадскіх асновах усё больш шырока распаўсюджваецца ў Магілёве. Ініцыятарам гэтай справы з'явіўся выкладчык асноў рэжысуры культасветвучылішча В. Ермаловіч. Ён узяў шэфства над драматычным калектывам, які працуе на заводзе штучнага валакна. Заводскімі аматарамі тэатральнага мастацтва быў ажыццёўлен спектакль па п'есе М. Пагодзіна «Кветкі жывыя». Ролю Ул. І. Леніна ў ім выконвае артыст абласнога тэатра народны артыст БССР С. Бульчык. Пад кіраўніцтвам В. Ермаловіча драмкалектыў рыхтуе два новыя спектаклі.

Добры прыклад В. Ермаловіча перанялі іншыя выкладчыкі культасветвучылішча. У Бараноўскі на грамадскіх асновах кіруе народным тэатрам Дома культуры магілёўскіх чыгуначнікаў. Днямі тэатр выпусціў спектакль «Хлопчыкі, дзяўчынкі...» і працуе над «Паўлінкай» Я. Купалы. Пры народным тэатры ствараецца студыя для падрыхтоўкі з ліку моладзі акцёрскага папаўнення для тэатра. Выкладчык вучылішча Я. Вонсік выказаў жаданне кіраваць танцавальным калектывам Дома культуры завода штучнага валакна.

## ЛІТАРАТУРА — ШКОЛА — ВЫХАВАННЕ

# «ПРЫШЛІЦЕ АДРАС... ТАЦЯНЫ МАЕЎСКАЙ»

«Дарагая рэдакцыя! Я прачытала раман Івана Шамякіна «Глыбокая плынь». Кніга мне вельмі спадабалася. Хораша расказвае пісьменнік пра простых савецкіх людзей, якія, не шкадуючы свайго жыцця, змагаліся з фашысцкімі захопнікамі. Асабліва палюбіла я Тацяну Маеўскую. Калі ласка, дарагая рэдакцыя, прышліце мне яе адрас, я хацела б перапісвацца з ёю. Калі вам не цяжка, напішыце таксама, дзе яна цяпер працуе. З прывітаннем вучаніца 10 класа Люба Шклоўская».

Гэта — адзін з многіх лістоў, якія дасылаюць у наша выдавецтва некаторыя чытачы.

Вядома, з аднаго боку, нельга не радавацца таму, што вобразы лепшых твораў сучаснай рускай і беларускай літаратуры настолькі эмацыянальныя, паўнакроўныя і жыццёва пераканаўчыя, што прымушаюць чытача верыць у рэальнае існаванне героя рамана ці аповесці ў жыцці. Але, з другога боку, думаецца, што сучасны чытач павінен хоць элементарна разбірацца ў пытаннях спецыфікі мастацтва, спецыфікі літаратуры. Як бы там ні было, працытаваны вышэй ліст, безумоўна, сведчыць аб тым, што ў той школе, дзе вучыцца дзяўчына, якая напісала ліст, не ўсё ў парадку з выкладаннем літаратуры.

Вядома, многія настаўнікі будуць пярэчыць: такі ліст, такая просьба — з'ява не тыповая, не характэрная, большасць нашых вучняў, як і большасць чытачоў, добра разумее літаратуру, густы і патрабаванні чытачоў за апошнія гады нязмерна ўзраслі. Усё гэта так, з гэтым можна згадзіцца. Але, на жаль, і нам, супрацоўнікам выдавецтваў, і многім пісьменнікам і журналістам даводзіцца яшчэ сустракацца з прыкрымі фактамі, калі маладыя чытачы, многія з якіх скончылі сярэднія школы, праяўляюць элементарную непісьменнасць, даючы не зусім сур'ёзныя ацэнкі таму ці іншаму літаратурнаму твору.

Нядаўна на Мінскім камвольным камбінаце адбылася канферэнцыя чытачоў па аповесці Дзмітрыя Уксусава «Я — твой друг». Тэма гэтага твора — жыццё моладзі буйнога тэкстыльнага прадпрыемства. І вельмі здзівілі і аўтара, і прысутных на канферэнцыі журналістаў выступленні маладых чытачоў, якія гаварылі прыкладна наступнае: «Дзе гэта пісьменнік убачыў у нас такога дырэктара (заўважце, у аповесці нідзе нават не ўпамянута, што падзеі адбываюцца ў Мінску), такіх вось інжынераў, як Колесаў (герой аповесці), такога брыгадзіра, як Віктар Шатроў, у нас нават і не так размешчаны будынкі на камбінаце, як пра гэта піша Уксусаў». І зусім мала было выказана сур'ёзных крытычных заўваг, амаль зусім не закраналіся тыя праблемы, якія ўзняты ў аповесці. Магчыма, што ўдзельнікам канферэнцыі зрабілі «паслугу» бібліятэкары, якія на аб'яве напісалі: «Гэта твор пра **наш** камбінат».

У існуючых школьных праграмах літаратуры гадзіна ці дзве адведзены на знаёмства вучняў з элементарнымі асновамі тэорыі літаратуры. Але гэтага, як правіла, аказваецца вельмі і вельмі недастаткова. Ды і наогул немэтазгодна даваць школьнікам веды па тэорыі літаратуры ізалявана ад непасрэднага разгляду літаратурных твораў.

На нашу думку, цяжка прывіць сапраўдную любоў да літаратуры вучням, якія не ведаюць асаблівасцей мастацкага мыслення, не ведаюць, чым істотна адрозніваецца аповесць, раман, апавяданне, напрыклад, ад нарыса. Выкарыстоўваючы багатую рускую і беларускую класічную спадчыну і лепшыя ўзоры савецкай літаратуры, настаўнік павінен растлумачыць вучням, што вобразы герояў таго ці іншага твора — своеасаблівае мастацкае адкрыццё пісьменніка. Нават тады, калі ў аўтара быў рэальны прататып, герой літаратурнага твора з'яўляецца не фатаграфічным адбіткам пэўнай біяграфіі і характару, а мастацкім абагульненнем. Такія і Базараў, і Рахметаў, і Міхал з коласаўскай «Новай Зямлі», і Карчагін, і Мярэсьеў.

Калі школьнік будзе правільна разумець спецыфіку мастацкага вобраза, мастацкага твора, тады і настаўніку лягчэй будзе прывучыць яго да самастойнага мыслення на матэрыяле літаратурнага твора, да самастойнага аналізу, да самастойных думак і вывадаў. Загадчык кафедры зарубежнай літаратуры БДУ імя Ул. І. Леніна Д. Фактаровіч у сваім артыкуле «Паўка Карчагін і дадання сказы» (гл. «Літаратуру і мастацтва» ад 31 жніўня г. г.) узняў вельмі важнае пытанне аб неабходнасці адысці ад шаблону ў патрабаваннях да сачыненняў вучняў старэйшых класаў, аб неабходнасці распрацаваць методыку сачыненняў на так званыя вольныя тэмы. Але не толькі ў сачыненнях на ўроках мовы і літаратуры трэба прывучаць вучняў думаць самастойна, даваць свае ацэнкі таму ці іншаму твору або вобразу. Па шаблону будуюць некаторыя настаўнікі і самыя ўрокі літаратуры, якія часта па форме нічым не адрозніваюцца, напрыклад, ад урокаў хіміі. Праверка хатняга задання па загадзя падрыхтаваных пытаннях, якія з году ў год паўтараюцца, тлумачэнне, некалькі так званых «кантрольных» пытанняў — вось і ўвесь «арсенал» многіх выкладчыкаў літаратуры. Гавораць, што не пажадана парушаць здавён выпрацаваную методыку, што ўрок — гэта не заняткі ў гуртку. Але мне здаецца, што элемент творчасці ў такой жа ступені павінен быць уласцівы кожнаму ўроку літаратуры, як і кожным заняткам гуртка. Улюбёны ў сваю справу і ў літаратуру настаўнік будзе прывучаць школьнікаў думаць і разважаць самастойна пры кожным адказе на ўроку.

Многія з тых, хто скончыў 42 сярэднюю школу горада Мінска, добра памятаюць настаўніцу літаратуры Раісу Рыгораўну Барам. Як цікава яна будавала кожны свой урок! Яе вучні на ўсё жыццё палюбілі літаратуру не толькі таму, што Раіса Рыгораўна смела адыходзіла ад школьнай праграмы, прымушаючы абавязкова чытаць і некаторыя творы, якія не ўваходзілі ў яе. Урокі Р. Барам былі і ўсхваляванай лекцыяй нават на дзве гадзіны, і загадзя падрыхтаваным і вельмі ўдала прадуманым дыспутам, і звычайным урокам, дзе кожнае пытанне вучням ставілася так, што яно прымушала да самастойнага мыслення, і ўрокам-дакладам аднаго з вучняў з наступным абмеркаваннем. Цікавымі былі і ўрокі, дзе настаўніца аналізавала кожнае сачыненне, прыцягваючы да абмеркавання трапна пастаўленымі пытаннямі амаль усіх вучняў класа. І я ўпэўнены, што кожны з тых, хто вучыўся ў Р. Барам, ніколі не папросіць пісьменніка альбо выдавецтва: «Прышліце адрас героя, я хачу з ім перапісвацца».

Бывае і так, што некаторыя памылковыя погляды чытачоў у адносінах да спецыфікі літаратуры і мастацтва падтрымліваюць і маладзёжныя газеты. Так, на старонках газеты «Знамя юности» ў першай палове гэтага года разгарнулася дыскусія пад рубрыкай: «Кніга, мастацтва, наш сучаснік», удзельнікі якой выказвалі ўвогуле правільныя думкі, заклікаючы літаратараў быць бліжэй да жыцця, лепш ведаць і «герояў нашага часу» — нашых маладых сучаснікаў, заклікаючы ствараць больш добрых мастацкіх твораў на матэрыяле з сучаснага жыцця. Аднак, гаворачы правільна пра жывых герояў нашых дзён, некаторыя ўдзельнікі дыскусіі дапускалі памылку, уяўляючы сабе, што варта прыехаць пісьменніку на завод, у вышэйшую навучальную ўстанову ці ў калгас і напісаць пра рэальнага чалавека, як атрымаецца цікавы мастацкі твор, і чытачы будуць імкнуцца быць такімі, як герой такога твора. Вось, напрыклад, што пісаў у газеце «Знамя юности» ад 12 лютага выкладчык інстытута замежных моў В. Папковіч, адказваючы на артыкул інжынера А. Тылевіча «А цяпер — ці герой ваш аднакурснік Лёшка?» (А. Тылевіч сцвярджаў, што яго аднакурснік Лёшка — зусім «гатовы» як герой літаратурнага твора): «Ведаючы, што гэта рэальная асоба, я загадзя прашу ў яго прабачэння. Але ў такім выглядзе, як ён паказаны ў артыкуле, для станоўчага героя кнігі ён не падыходзіць. Пісьменнік яшчэ многа над ім (над кім — над аднакурснікам тав. Тылевіча?) будзе працаваць». Дзіўна, што такое неразуменне спецыфікі мастацкага твора не ў вучня, а ў выкладчыка ВНУ. Дыскусія на старонках «Знамени юности» нечакана абарвалася, а газета так і не растлумачыла сваім чытачам, што поспех літаратурнага твора залежыць не толькі ад выбару жыццёвага матэрыялу, што можна і пра вельмі цікавага чалавека напісаць сумна, так, што ніхто і чытаць не будзе.

Самастойнае мысленне і ідэйна-эстэтычныя густы маладога чытача фарміруюць не толькі настаўнікі літаратуры. Вялікую дапамогу настаўнікам у іх высакароднай справе павінны аказваць і бацькі, і бібліятэчныя работнікі, і нашы маладзёжныя газеты і часопісы, і радыё, і тэлебачанне. Клопат аб тым, каб маладое пакаленне любіла літаратуру, мастацтва, — гэта наш агульны клопат, наша агульная справа.

**В. НІКІФАРОВІЧ,**
**рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР.**

## ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

# НЕЗАБЫЎНАЕ

НІКОЛІ не забуду чэрвеня 1928 года. Тады я быў шаснаццацігадовы хлопец і толькі што атрымаў пасведчанне аб сканчэнні Старобінскай сямігодкі. Не хацелася заставацца дома на бацькавай гаспадарцы. Я сабраў усе дакументы і павёз у Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум. К таму часу мы з Аляксеем Кулакоўскім паслалі ў Белдзяржвыдавецтва па зборніку апавяданняў. Трэба было таксама даведацца пра іх лёс.

У Мінск я прыехаў раніцай. Нейкі дзядзька завёў мяне ў Дом селяніна, там я спыніўся, паклаў сваю торбу, а сам пайшоў глядзець горад. Мінск мяне ашаламіў, і я адчуў сябе вельмі адзінокім і нікому не патрэбным. Не буду пісаць пра розныя прыгоды, што падсцерагалі ў горадзе вясковага хлопца, які да гэтага і ў Слуцку быў толькі два разы.

Сяк-так знайшоў Белпедтэхнікум і здаў дакументы нейкаму пажылому мужчыну.

Потым адшукаў Белдзяржвыдавецтва. У першым пакоі сядзела дзяўчына і ляскала на машынцы. Яна сказала, што трэба звярнуцца да дзядзькі Цішкі і паказала яго кабінет.

За сталом сядзеў прысадзісты мужчына з голенай галавой, а перад ім стаяў спадак з чарэшнямі. Ён браў буйныя ягады і па адной клаў у рот. Я адразу пазнаў яго. Ды гэта ж Цішка Гартны!

— Што скажаце? — запытаў ён і зірнуў на мяне зласнавата.

У мяне, здаецца, язык адубянеў, і заіканне, якім я хварэю да гэтага часу, зусім адабрала мову. Я сяк-так расказаў, што мне трэба.

— То вы не туды трапілі, — адказаў ён не вельмі прыветна. — Вам трэба зайсці да Красуцкага. Яго пакой насупраць.

Я выйшаў і доўга стаяў у калідоры. Увесь мой настрой апаў. «Красуцкі... — думаў я. — Можа, ён і гаварыць са мной не захоча...» Можа, я і не зайшоў бы да Красуцкага, але ён сам выйшаў з пакоя. Гэта быў высокі, вельмі прыемны малады чалавек.

— Вы, мабыць, да мяне? — запытаў ён, зірнуўшы на маю бездапаможную постаць.

— Так...

І я расказаў, чаго зайшоў.

— Атрымалі вашы зборнікі, — прамовіў ён. — Прачыталі і адаслалі назад з адказамі.

У той жа дзень у адрасным бюро мне далі адрас Якуба Коласа. Трэба сказаць, што ў моладзі, у прыватнасці, вучняў і студэнтаў імя Якуба Коласа ў той час было самае папулярнае. Гэта, мабыць, тлумачылася тым, што ён напісаў цудоўную аповесць пра маладых «На прасторах жыцця», якой усе зачытваліся, і тым, што быў выкладчыкам у Белпедтэхнікуме і ва універсітэце. Адным словам, да Якуба Коласа звярталіся не толькі тыя, хто пісаў, а ўсе, каму была патрэбна нейкая дапамога.

Надвячоркам я пайшоў да дзядзькі Якуба. Трэба было перайсці гарадскі сад (цяпер парк імя Горкага) і знайсці 2-гі Шпітальны завулак, дом № 1. І вось я там. Новы двухпавярховы драўляны дом, мабыць, яшчэ не зусім дабудаваны, бо на двары поўна трэсак і стружак. Пад ногі мне з шалёным брэхам кінуўся маленькі сабачка. Аднекуль з'явіўся пажылы чалавек сярэдняга росту, з залатымі зубамі. Ён супакоіў сабачку і вельмі добразычліва запытаў, што мне трэба.

— Хачу пабачыць Якуба Коласа, — адказаў я, бо адразу пазнаў, што гэта не дзядзька Якуб.

— Якуб Колас у Ждановічах, — адказаў мне гэты чалавек. — Але сёння прыедзе. Толькі ж сёння позна. Вы прыйдзіце заўтра раніцай.

Пераначаваў я ў Доме селяніна, але спаў вельмі мала. Я думаў пра Якуба Коласа і з нецярпеннем чакаў раніцы.

Як толькі ўзышло сонца, я ўжо быў на нагах, і яны панеслі мяне проста да Шпітальнага, хоць я быў ўпэўнены, што Якуб Колас яшчэ спіць. Але як жа здзівіўся я, падышоўшы да двухпавярховага драўлянага дома! Насустрач мне ішоў ён сам — дзядзька Якуб! У белай мультановай кашулі, у чорных, у белую палоску картовых штанах, у чорных чаравіках і саламяным капелюшы. Ён быў стройны хударлявы мужчына з прыгожым задумлівым тварам, зусім не падобны на таго Якуба Коласа, якога мы прывыклі бачыць пасля вайны, ужо састарэлага і распаўнелага.

— Вы да мяне? — запытаў ён, акінуўшы мяне позіркам.

Не памятаю што я адказаў.

— Мне гаварылі, што ўчора надвячоркам нехта быў. Хадзем у сад, пасядзім. Бачыце, які харошы ранак!

Ох, гэтае праклятае заіканне... Мы селі на лаўцы. Я не мог вымавіць слова. Гаварыць з Якубам Коласам! Ды гэта ж шчасце! Ды гэты ж дзень застанецца шчаслівым успамінам на ўсё жыццё!

— Адкуль вы? — запытаў дзядзька Якуб.

Я адказаў.

— Значыць, са Случчыны. Случчыну я ведаю. Пішаце вершы?

— Пішу, дзядзька Якуб.

— Пачытайце.

І я, перамагаючы хваляванне і заіканне, што мне ніяк не ўдавалася, пачаў чытаць. Чытаю, але вершы не гучаць. Гэта зусім не тыя вершы, што я пісаў. Калі я чытаў іх Аляксею ці брату, яны былі лепшыя...

Якуб Колас уважліва слухае і маўчыць. Калі я канчаю верш, ён пытаецца:

— Яшчэ ёсць?

— Ёсць, дзядзька Якуб.

— Чытайце.

І я прачытаў адзін за адным усе свае вершы, якія прывёз. Нарэшце, усё. Якуб Колас глядзіць на мяне доўгім позіркам, тады кажа:

— У апошнім вашым вершы напісана грудзь, а трэба грудзі. Дзень—цень, што гэта за рыфма? Шуміць — бяжыць, а гэта што за рыфма? Верхавін—адзін, гэта ўжо трошкі лепш. «У зрэбнай рубашцы...» — прыпамінае ён. — Прачытайце гэты верш яшчэ раз.

Верш называўся «Сявец». Некалькі яго радкоў засталіся ў маёй памяці і дагэтуль іменна таму, што я чытаў яго Якубу Коласу.

Я пачаў чытаць:

У зрэбнай рубашцы, ў лазовых лапцях
Такі задуменны і просты.
І пояс чырвоны прыгожа абцяг
Яго грубаватую постаць.
Ў глыбокіх маршчынах грубы яго твар,
І погляд глыбокі, заўзяты.
Ідзе ён і кідае ў чорную твань
Ржаныя, буйныя зярняты...

Я дачытаў верш да канца. Помню, што канчаўся ён трактарам, які прыйдзе на дапамогу сяўцу.

— Першыя чатыры радкі нішто сабе, — прамовіў Якуб Колас. — Толькі ў слове лапцях не на месцы націск. А далей і зусім няўдала. Твар — твань, можа гэта і модна, але ж рыфмы няма! Па-вашаму, глеба, ралля — гэта твань? Твань — гэта балота, багна, і ваш сявец у балота кідае ржаныя, буйныя зярняты! Пакажыце мне такога дурнога сяўца! «Ідзе ён і кідае...» Ды ён не ідзе і не кідае, а проста сее.

«Божа мой! — думаю я. — Да чаго ж усё проста і праўдзіва! А я гэты верш лічыў найлепшым».

— І постаць грубаватая, і твар грубы, — працягвае Якуб Колас. — І маршчыны глыбокія, і погляд глыбокі. Як гэта вам падабаецца?

Я не ўпэўнены, што слова ў слова перадаю гаворку вялікага пісьменніка, але за сэнс яе ручаюся. Гаварылі мы доўга. Ён разабраў па костачках усе мае вершы, прапанаваў дапрацаваць і прыслаць яму.

Пра галоўнае я так і не сказаў дзядзьку Якубу. А галоўнай была просьба, каб ён памог паступіць вучыцца ў Белпедтэхнікум. Не памятаю, ці забыў пра гэта, ці не адважыўся прасіць.

У той жа дзень я паехаў дадому.

Зборнікі свае мы з Аляксеем атрымалі. Да іх былі прыкладзены адказы: вельмі кароткія і падобныя адзін на адзін, як два родныя браты.

**Аркадзь ЧАРНЫШЭВІЧ.**

Сакавік 1955 года. Якуб Колас выступае на сходзе беларускіх пісьменнікаў, прысвечаным абмеркаванню Звароту Сусветнага Савета Міру (здымак публікуецца ўпершыню).

Фота **М. МІНКОВІЧА.**

Асабліва мнагалюдна ў гэтыя дні ў Музеі Я. Коласа. Наш фотакарэспандэнт Ул. Крук зрабіў гэты здымак у час наведвання музея навучэнцамі Мінскага індустрыяльнага тэхнікума.

# ПАДТРЫМЛІВАЮ!

Так, я згодзен з думкай загадчыка кафедры БДУ Д. Фактаровіча, якую ён выказаў у артыкуле «Паўка Карчагін і дадзеныя сказы». Сапраўды, літаратура — не матэматыка, правільнасць рашэння па адказу не зверыш. Калі матэматычная задача, за рэдкім выключэннем, павінна быць рашана ўсімі вучнямі аднолькава, дык выпадак, калі б літаратурнае сачыненне ўсе вучні напісалі аднолькава, азначаў бы, што настаўніка трэба неадкладна вызваляць ад работы. І наадварот: самы разнастайны падыход да вырашэння тэмы ў кожным вучнёўскім сачыненні, багацце думак, разнастайнасць стылю, кампазіцыі — найлепшая атэстацыя для выкладчыка літаратуры.

Вось чаму такім сур'ёзным з'яўляецца пытанне аб крытэрыі пры ацэнцы вучнёўскіх сачыненняў і наогул ведаў па літаратуры. Ці не ад адсутнасці правільных крытэрыяў, ці не ад боязі завысіць або занізіць іх, асноўная ўвага пры ацэнцы вучнёўскіх сачыненняў зводзіцца да пераліку арфаграфічных і сінтаксічных памылак. Двойка ставіцца за любую работу любога памеру, калі ў ёй дапушчана звыш чатырох арфаграфічных памылак. Гэтыя арфаграфічныя памылкі сталі сапраўдным бар'ерам. Вучань трасціць усе сілы на тое, каб як-небудзь не зрабіць памылак звыш нормы. Для гэтага ён збядняе сваю мову, піша простымі, шэрымі, аднатыпнымі сказамі, стараецца скапіраваць крытычны ці іншы артыкул, мінулагодняе сачыненне таварыша. Дзе ўжо тут да выпрацоўкі ўласнага стылю, да сваіх думак!.. Я спадзяюся, зразумела, што ніхто не падумае, быццам я збіраюся прынізіць важнасць элементарнай пісьменнасці.

Якое выйсце з гэтага становішча? Выйсце, па-мойму, будзе знойдзена, калі са сцен ВНУ пачнуць выходзіць выкладчыкі літаратуры, якія ўмелі б не толькі даваць агульныя парады, як пісаць, але і самі маглі напісаць сачыненне на любую тэму, рэферат, заметку ў газету, публіцыстычны артыкул, артыкул на метадычную тэму, маглі б самастойна разбірацца ў творах мастацкай літаратуры, мелі творчы агеньчык.

Далей. Як вядома, майстэрства робіцца дасканалым толькі ў працы. Калі настаўнік-літаратар не працуе над сабой штодзённа, дык ён праз даволі кароткі час мала чым будзе адрознівацца ад свайго вучня. Пераказаць змест крытычнага артыкула і праверыць сачыненне толькі з боку наяўнасці арфаграфічных памылак — не цяжка. І горка, што іменна на такім узроўні многія літаратары і сядзяць.

На пасяджэннях секцый, педагагічных саветаў, вытворчых нарадах, канферэнцыях і г. д. ці не лепш замест нудных дакладаў пра тое, як хто-небудзь з нас вучыць пісаць сачыненне, заслухоўваць часам сачыненне ці іншую творчую работу, напісаную самім жа настаўнікам? Тут бы і выявілася яго асабістае ўменне, яго падрыхтаванасць, яго эрудыцыя. Можна было б правесці добрую жывую дыскусію. Вось дзе прастора для думак, меркаванняў, разважанняў. Пасля гэтага і настаўнік у гутарцы з вучнямі ці ў час праверкі работ адчуваў бы сябе больш смела, упэўнена.

**А. АМЯЛЬКОВІЧ,**
**настаўнік Беліцкай сярэдняй школы Слуцкага раёна.**

Сярод кніг

# БЕЛАРУСКІ СПЕЎНІК

Перад намі акуратна афармленая кніжачка, выдадзеная рэспубліканскім Домам народнай творчасці і рэдакцыяй музычнай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР. На вокладцы, уздоўж невялічкага нотнага стану дадзена назва — усяго адно слова — «Спеўнік». Гэта своеасаблівы каштоўны дапаможнік для нашай мастацкай самадзейнасці, для шматлікіх музычных і харавых гурткоў горада і вёскі.

Складальнікі «Спеўніка» Ул. Гарачун і Л. Траскоўская ў асноўным правільна адабралі і змясцілі ў ім найбольш «хадавыя» песні з рэпертуару аматараў музыкі. Зборнік мае два раздзелы: «Папулярныя песні Беларусі» і «Беларускія народныя песні». У першым раздзеле ўдзельнікі і кіраўнікі харавых гурткоў знойдуць найбольш вядомыя і мастацкі паўнацэнныя песні беларускіх кампазітараў-прафесіяналаў і самадзейных аўтараў на самыя разнастайныя тэмы. Тут песні аб Радзіме і партыі — («Радзіма, мая дарагая» Ул. Алоўнікава, «Песня пра Нёман» Н. Сакалоўскага, «Родны край» П. Шэўка), аб героях Вялікай Айчыннай вайны («Песня пра Заслонава», «Аб Брэсцкай крэпасці» і «Лясная песня» Ул. Алоўнікава, «Жылі салдаты баявыя» І. Ронькіна), песні аб паасобных мясцінах і гарадах рэспублікі, аб нашых буйных прадпрыемствах, аб радасці камуністычнай працы і г. д.

Трэба толькі пашкадаваць, што ў «Спеўнік» чамусьці не папала ніводная з вядомых у народзе песень М. Аладава і А. Багатырова.

Другі раздзел зборніка ўключае больш 30 беларускіх народных песень—лірычных, танцавальных, бытавых і календарных.

Выданне «Спеўніка» напярэдадні Дэкады самадзейнага мастацтва Беларусі — вельмі карыснае і своечасовае. Усе песні ў ім змешчаны без суправаджэння, але ў аўтарскай вакальнай рэдакцыі, гэта значыць — у двух- і трохгалосным выкладанні; а «Дзяржаўны гімн Беларускай ССР», якім адкрываецца «Спеўнік», — у харавой шматгалоснай рэдакцыі. Гэта дае магчымасць кожнаму баяністу без асаблівай цяжкасці самому падабраць акампанемент да большасці твораў.

У той жа час мне здаецца, настаў час выдаць другі зборнік папулярных песень з акампанементам (у аўтарскай рэдакцыі альбо ў пералажэнні вопытнага «баяназнаўцы»). Гэта тым больш неабходна, бо ўсё ж да некаторых змешчаных у «Спеўніку» песень нават вопытны музыкант наўрад ці здолее самастойна падабраць гарманічна-пісьменны акампанемент. Я маю на ўвазе, скажам, «Песню аб Брэсцкай крэпасці» з яе даволі складанай гармоніяй і перабойным рытмам.

Хочацца зрабіць яшчэ адну заўвагу ўкладальнікам «Спеўніка». Відаць, варта было змясціць у зборніку бібліяграфічныя нататкі, якія б дапамаглі жадаючым знайсці песні ў арыгінальнай, аўтарскай рэдакцыі і з суправаджэннем. Не пашкодзіла б таксама адзначыць, у чыёй мастацкай апрацоўцы існуе тая ці іншая беларуская народная песня — акапэльная ці з акампанементам. Такія даведкі не занялі б многа месца, але аказалі б істотную дапамогу аматарам музыкі. Гэта трэба ўлічыць пры магчымым перавыданні «Спеўніка», якому, на наш погляд, забяспечана «зялёная вуліца» сярод выканаўцаў-прафесіяналаў, кіраўнікоў харавых гурткоў і аматараў музыкі, на якіх і разлічаны гэты наогул каштоўны зборнік.

Рэспубліканскі Дом народнай творчасці. «Спеўнік». Дзяржвыдавецтва БССР. Мінск, 1962 г.

**Я. ЦІКОЦКІ,**
**народны артыст СССР.**

40 год шэфствуе Ленінскі камсамол над Ваенна-Марскім Флотам Савецкага Саюза. Днямі ў Мінску адбыўся вечар, прысвечаны гэтай знамянальнай даце. У акруговым Доме афіцэраў сабраліся камсамольцы і моладзь сталіцы, прысутнічала дэлегацыя маракоў Балтыйскага флоту. Камсамол Беларусі падарыў маракам партрэт Я. Купалы, лінагравюру на тэму з жыцця маракоў і фотаальбом «Савецкая Беларусь». У сваю чаргу балтыйцы паднеслі мінчанам макет баявога карабля і кароткаметражны фільм самадзейнай кінастудыі аб марской службе.

Пасля ўрачыстай часткі адбыўся вялікі канцэрт народнага ансамбля танца Мінскага трактарнага завода.

На здымку: дэлегаты балтыйскіх маракоў і камсамольцы сталіцы.

Фота **Ул. КРУКА.**

